НАД ВЫДАНЬНЕМ ПРАЦАВАЛІ:
ВЕРШАМІ: ДАР'Я ШЭІНА,
АЛЯКСЕЙ ШЭІН, ЯУГЕН ЗУБОВІЧ;
ПЭНДЗЛЕМ: АЛЕСЯ САКАЛОВА;
КАМПУТАРАМ: АГЛАЯ СТУНКУС.

МЕНСК 2015

ВЕРШАВАНАЯ

# НАВУКА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ

## СОНЕЧНАЯ СЫСТЭМА. ЧАСТКІ СЬВЕТУ. БЕЛАРУСЬ.

ЧАСТКА 1



# СОНЕЧНАЯ СЫСТЭМА

АРБІТА

СТВАРЫЎ ВЯЛІКІ БОГ СУСЬВЕТ,
ТАМ ЗОРАК ШМАТ І ШМАТ ПЛЯНЭТ.
У САМЫМ ЦЭНТРЫ СЬВЕЦІЦЬ СОНЦА,
ВАКОЛ ПЛЯНЭТЫ ЙДУЦЬ ПА КОЛЦАХ.




ПА ЛІКУ ПЕРШАЯ — МЕРКУРЫЙ,
КІПІЦЬ ЯГОНАЯ НАТУРА.

СОНЦА



РАКЕТА

СПАДАРОЖНІК




ЗА ІМ — ГАРАЧАЯ ВЕНЕРА,
З ЗЯМЛЁЙ АДНОЛЬКАВЫХ ПАМЕРАЎ.

КАМЕТА

ТРЭЦЯЯ Ў ШЭРАГУ—ЗЯМЛЯ,
ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ ТЫ І Я

ЧАЦЬВЁРТЫ МАРС ШМАТ МАЕ МОРАЎ,
НА ІМ ЁСЬЦЬ КРАТЭРЫ І ГОРЫ.






З ЧЫРВОНЫМ ВОГНЕННЫМ АБЛІЧЧАМ.
УСЬЛЕД ЗА ІМ ГІГАНТ ЮПІТЭР
ЗАЛЕЗ ПАВАЖНА НА АРБІТУ.






САТУРН ЗЬДЗІЎЛЯЕ ЎСІХ НАС,
ВАКОЛ ЯГО ПРЫГОЖЫ ПАС.
А СЁМЫ Ў ШЭРАГУ — УРАН,
ПРЫЛЁГ НА БОК ЁН, НІБЫ ПАН.






НЭПТУН ЗАВЕРШЫЎ ЛІК ПЛЯНЭТ.
ВОСЬ ТАК НАШ СТВОРАНЫ СУСЬВЕТ.

# НОЧ І ДЗЕНЬ




БОГ СТВАРЫЎ УСЁ НА СЬВЕЦЕ:
ЗОРКІ, НАС, СЬВЯТЛО І ЦЕНЬ.
МЕСЯЦ НАМ У НОЧЫ СЬВЕЦІЦЬ.
СОНЦА ЗЬЗЯЕ ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ.




ЧАСТКІ СЬВЕТУ МЫ ЛІЧЫЛІ-
ДА АЎСТРАЛІІ ДАПЛЫЛІ.
ПОБАЧ АФРЫКА, ДЗЕ СЬПЁКА,
АНТАРКТЫДА НЕДАЛЁКА.




УВЕРСЕ НАШАЯ ЭЎРОПА,
З ЁЮ АЗІЯ ПАД БОКАМ.
АКІЯН ПЕРАПЛЫВАЕМ-
У АМЭРЫКУ ТРАПЛЯЕМ.

# ЗЬВЯРЫ І КАНТЫНЕНТЫ



# Я жыву ў Беларусі

Край цудоўны і прывабны,
Край лясоў і хуткіх рэчак
Любіць шчыра і аддана
І дарослы, і малеча.

Хто ў гэты край патрапіў,
Той вярнуцца хоча зноў.
Ён на эўрапейскай мапе
Сярод розных іншых моў.

Тут жыву я ў Беларусі,
Размаўляю роднай мовай
І за гэты край з пакорай
Я да Госпада малюся.



# ПАГОНЯ



ГЭЙ, СЯБРЫ! УСПОМНІЦЬ ЧАС
МУЖНЫХ ВЕРШНІКАЎ НА КОНЯХ.
З ІХ АДЗІН НА ГЕРБЕ Ў НАС,
А ЗАВЕЦЦА ГЕРБ ПАГОНЯЙ!



# СЬЦЯГ



НА ШЧЫЦЕ, НА ГЕРБЕ ТЫМ
КРЫЖ НЯСЕ ТОЙ ВЕРШНІК СЬМЕЛЫ.
А ЛУНАЕ ПА-НАД ІМ
СЬЦЯГ НАШ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ!

# СЯМ'Я

У СЯМ'І НЯ ТАК І ПРОСТА —
ЛЮДЗІ РОЗНАГА ЎЗРОСТУ.
НАЙСТАРЭЙШЫ З НАС — ДЗЯДУЛЯ.
ЯНЫ РАЗАМ І З БАБУЛЯЙ
У ГОСЬЦІ ЛЮБЯЦЬ ЗАВІТАЦЬ,
МАМУ З ТАТАМ ПАВІТАЦЬ.
АКРАМЯ СВАІХ БАЦЬКОЎ,
МАЮ СЁСТРАЎ І БРАТОЎ.







І БАЦЬКІ МАЕ ІХ МАЮЦЬ,
ЦЁЦЯЙ З ДЗЯДЗЕМ НАЗЫВАЮЦЬ.
ЯК ЛЮБЛЮ, СКАЖУ ВАМ Я,
КАЛІ Ў ЗБОРЫ ЎСЯ СЯМ'Я.





